5 чэрвеня давялося мне завітаць ва ўстанову пад шыльдай «СССР, «Сберегательный банк СССР. Филиал № 1169/059 Мозырского отделения». «Драўляных», як звычайна, не было, з красавіка я так і не магу іх атрымаць.

Пакінуўшы непадалёк каляску з немаўлём, стаў у чаргу за «зайцамі». І вось нарэшце я ля запаветнага акенца № 15. Падаў туды сваю ашчадную кніжку і запоўнены ордэр і праз хвіліну яны вылецелі адтуль, як з гарматы, а з амбразуры ўслед нёсся раз'юшаны дзявочы голас: «Что вы мне подсунули, перепишите, чтоб все было на нормальном языке: не 5 чэрвеня, а 5 июня, не разліковыя білеты, а расчётные».

Маё патрабаванне выдаць мне беларускія разліковыя білеты Нацыянальнага банка па ордэру, запоўненаму беларускай дзяржаўнай мовай, было праігнаравана. Касір адмовілася назваць сваё прозвішча. Галоўны кантралёр таксама не змагла перакanаць дзяўчыну з акенца № 15 і пайшла за парадай да некага вышэй па інстанцыі.

З'явілася хвілін праз 10 і ўжо асабіста села за разліковы пульт і, пакуль рабіла разлік, чытала мне лекцыю «Как в Белоруссии русских заставляют насильно учить этот белорусский...», а таксама даводзіла, што, згодна з тымі інструкцыямі, якія ёсць у іх банку, у даным выпадку я мог бы застацца без разліковых білетаў. І толькі каб не псаваць сабе настрой, на гэты раз яна вырашыла іх мне выдаць.

● ПРЫНЦЫПОВАЕ ПЫТАННЕ

# Чаму ў Мазыры беларусу грошай не давалі?

Няма гарантыі таго, што ў наступны раз усё абыдзецца без канфлікту... Дзякуй Богу, спакойна дачакалася мяне дачка, ёй вельмі спадабаліся каляровыя звяры на разліковых білетах Беларускага нацыянальнага банка.

А мне прымроілася, што беларус, быццам той зубр, хутка зможа таксама патрапіць у «грашовы заапарк» як рэдкая тутэйшая істота...

**Уладзімір МАЛАШЧАНКА.**
г. Мазыр.

**Рэдакцыя адрасуе гэты ліст Дзяржаўнаму ашчаднаму банку Рэспублікі Беларусь.**

# БЕЛАРУШЧЫНА

Гэты здымак карэспандэнт БЕЛТА Уладзімір Мяжэвіч зрабіў у Баранавіцкай сярэдняй школе № 4, дзе адкрыўся музей Валянціна Таўлая. Побач з літаратурнай тут створана і этнаграфічная экспазіцыя.

## Паўстагоддзя без паэта...

**28 ЧЭРВЕНЯ СПАЎНЯЕЦЦА 50 ГАДОЎ З ДНЯ ТРАГІЧНАЙ ГІБЕЛІ НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ ЯНКІ КУПАЛЫ.**

**У гэты дзень раніцай адбудуцца паніхіды ва ўсіх хрысціянскіх храмах Беларусі, Вільні і Масквы.**

**А ў 16 гадзін каля помніка паэту ў мінскім парку імя Я. Купалы адбудзецца жалобнае веча. Затым яго ўдзельнікі пройдуць да Вайсковых могілак, каб ускласці вянкі і кветкі на магілу Купалы і яго маці.**

**Камісія па культуры БНФ і Літаратурны музей Я. Купалы запрашаюць люд Беларусі прыняць удзел у жальбінах.**

● АДРАДЖЭНЦЫ

# КСЁНДЗ АДАМ СТАНКЕВІЧ

**Сёлета споўнілася сто гадоў з дня нараджэння выдатнага нацыянальна-рэлігійнага і культурна-асветнага беларускага дзеяча ксяндза Адама Станкевіча. Справа, якую рабіў А. Станкевіч, засталася актуальнай і да нашых дзён. Тыя прынцыпы, за якія ён змагаўся, — яднанне народа на хрысціянскіх і нацыянальных каштоўнасцях, а не падзяленне па веравызнанню — вымагаюць змагання і ў наш час.**

АДАМ СТАНКЕВІЧ нарадзіўся 24 снежня (старога стылю) 1891 года на Ашмяншчыне, у вёсцы Арляняты каля Баруноў. Вучыўся ў рускіх парафіяльных школах у Барунах і Гальшанах, у Ашмянскай народнай вучэльні. Ужо ў дзяцінстве, як пісаў пасля Станкевіч, перад ім паўстала пытанне нацыянальнага самаакрэслення. Разабрацца з гэтым «цяжкім да ўцямку» пытаннем дапамагло знаёмства з земляком з суседняй вёскі Каранды, беларускім адраджэнцам ксяндзом Адамам Лісоўскім, ад якога ён атрымліваў беларускія кніжкі. Усвядоміўшы сваю беларускасць, Станкевіч зразумеў тую фікцыю, якая была закладзена ў тоеснасць паняццяў «каталік і паляк», «праваслаўны і рускі». У 1909 годзе Станкевіч даслаў першы допіс у «Нашу ніву».

Пад уплывам таго ж ксяндза Лісоўскага Станкевіч вырашыў прысвяціць сябе святарскай дзейнасці. У 1910 годзе ён паступіў у Віленскую каталіцкую семінарыю. Нягледзячы на польскую нацыянальную прапаганду, семінарысты, пераважную большасць якіх складалі хлопцы з беларускіх абшараў, стварылі залегалізаваны рэктаратам беларускі гурток. Пры ім пачала дзейнічаць беларуская бібліятэка, агульнасемінарскі хор выконваў сярод іншых і беларускія песні.

У 1914 годзе Станкевіч паступіў у Каталіцкую духоўную акадэмію ў Пецярбургу. У той час у акадэміі вучылася шмат беларусаў. Гурткоўцы паглыблялі свае веды пра Беларусь і распаўсюджвалі іх сярод моладзі з Беларусі, якая вучылася ў Пецярбургу. На сходы гуртка прыходзілі Б. Эпімах-Шыпіла, Б. Тарашкевіч, К. Дуж-Душэўскі, іншыя. Гурток меў бібліятэку, заснаваную на сродкі княгіні Магдалены Радзівіл. Станкевіч супрацоўнічаў у беларускіх газетах «Светач», «Крыніца» і «Дзянніца».

Пасля лютаўскай рэвалюцыі з'явіліся больш спрыяльныя ўмовы для нацыянальнай дзейнасці ў Расіі. Станкевіч актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху. Быў дэлегатам першага з'езда беларускіх каталіцкіх святароў, які адбыўся ў Мінску 24—25 мая 1917 года. Ксёндз К. Вайчоніс, які ў 1949 годзе сядзеў пад следствам у сутарэннях віленскага МДБ разам з ксяндзом Адамам, з яго слоў паведаміў аб тым, што Станкевіч зімой 1918 года быў за «контррэвалюцыйную дзейнасць» арыштаваны петраградскай ЧК і вызвалены пасля размовы з «земляком» Ф. Дзяржынскім, калі той абходзіў з рэвізіяй камеры.

Неўзабаве Станкевіч пакінуў Петраград і накіраваўся ў Вільню. Там духоўнае кіраўніцтва з польскіх святароў паставілася да Станкевіча непрыхільна, і ён быў пасланы на парафію ў Драгічын. Але ў хуткім часе новапрызначаны арцыбіскуп-літовец Юрый Матулевіч адклікаў Станкевіча назад у Вільню.

Гэта быў вельмі цяжкі час для Беларусі. Яе землі па чарзе пераходзілі з рук у рукі то немцам, то савецкай Расіі, то Літве, то Польшчы. У Расіі тады знаходзілася шмат бежанцаў, у многіх выпадках прымусова адселеных царскім урадам з франтавой зоны. Вяртаючыся на бацькаўшчыну, яны траплялі ў надзвычай цяжкія ўмовы, і вялікую падтрымку ім аказвалі Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны і Беларускі дзіцячы прытулак, дзе актыўна працаваў А. Станкевіч.

Як святар Станкевіч не мог не думаць пра належнае месца беларускай мовы ў касцёлах і цэрквах. З 1921 года ён вядзе рэгулярныя беларускамоўныя набажэнствы ў віленскім касцёле Св. Мікалая. Вялікую заклапочанасць Станкевіч праяўляў і аб партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД), якая гуртавала беларускіх каталіцкіх дзеячаў і нацыянальна свядомых жыхароў Заходняй Беларусі.

Станкевіч бачыў усю небяспечнасць спроб падзяляць беларусаў па веравызнаўчых прыкметах і таму імкнуўся да яднання народа на хрысціянскіх і культурна-гістарычных каштоўнасцях. У адной са сваіх прац ён пісаў: «...Сёння, калі святкуем 950-годдзе хросту Беларусі, Хрысціянства ў беларускім народзе бачым не адзіным, як напачатку, але падзеленым на дзве часткі: на Праваслаўе і Каталіцтва двух абрадаў — лацінскае й усходняе (Унія). Вось жа маючы на ўвазе вялікую вартасць Хрысціянства агулам, самога ў сабе для душы чалавека, а гэтак жа для тварэння й падтрымання беларускай нацыі, мусім шукаць такіх формаў сужыцця гэтых частак Хрысціянства, каб яно не толькі не паглыбляла гэнага падзелу, але каб між праваслаўнымі і каталікамі наступіла адзінства рэлігійнае, прынамсі да тых граніц, да якіх у сучасных абставінах здабыцца можна і трэба. Шуканне прынамсі мінімальнага адзінства ў беларускім народзе — гэта наша гістарычнае заданне».

У 1922 годзе Станкевіч быў абраны паслом у польскі сейм. Тады беларусы-дэпутаты выступалі адзіным блокам з украінцамі, яўрэямі і немцамі. Тры беларусы былі абраны сенатарамі, быў створаны Беларускі пасольскі клуб, віцэ-прэзідэнтам якога стаў А. Станкевіч. Але ўжо ў 1925 годзе група паслоў на чале з Б. Тарашкевічам выйшла з Клуба, заснаваўшы марксісцкую партыю «Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада» (БСРГ). Грамада і асабліва КПЗБ пачалі барацьбу супраць БХД, якая нібыта «...дурманіць рабочых і сялянаў і гандлюе іхняй крывёй». БХД, са свайго боку, не магла пагадзіцца з марксісцкай праграмай Грамады і яе некрытычным захапленнем усім, што рабілася ў савецкай Беларусі, аднак выказвала свой пункт гледжання памяркоўна, без фанатызму. Менавіта нацыянальнае развіццё і беларусізацыя ўсіх бакоў жыцця, у тым ліку рэлігійнага, была тым арыенцірам, з якім БХД з годнасцю прайшла праз усе канфлікты і ўціск 20—30-х гадоў.

У маі 1926 года ў Вільні была створана Беларуская друкарня імя Ф. Скарыны, якую ўзначаліў А. Станкевіч. Ён актыўна ўдзельнічаў таксама ў стварэнні і рэдагаванні газеты «Беларуская крыніца», часопісаў «Хрысціянская думка», «Шлях моладзі», «Самапомач», «Калосе», якія выходзілі ў гэтай друкарні. Усяго ў 1926—1940 гадах было надрукавана каля 150 назваў кніжак, у тым ліку 18 самога А. Станкевіча, сярод якіх «Родная мова ў святынях» (1929), «Доктар Францішак Скарына» (1925), «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (1935), «Беларускі хрысціянскі рух» (1939), «Хрысціянства і беларускі народ» (1940). Апошняя кніга — фактычна першая спроба даць беларускую інтэрпрэтацыю рэлігійнай гісторыі Беларусі.

Грамадская і выдавецкая дзейнасць Станкевіча жорстка праследавалася польскімі духоўнымі ўладамі ў асобе віленскага арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага, які ў канцы 1928 года забараніў супрацоўніцтва ў БХД і «Беларускай крыніцы». І ўсё-такі, нягледзячы на гэта, а таксама на звальненне з пасады выкладчыка Беларускай гімназіі ў 1933 годзе, Станкевіч не губляў аптымізму. Заўсёды добры настрой, усмешка — вось што згадваюць перш за ўсё ў сваіх успамінах тыя, хто яго ведаў. Ягоны аптымізм надаваў сілы ўсім, хто працаваў разам з ім, і тым, хто пасля быў з ім у сталінскіх вязніцах. Думаць пра тое, што менавіта ты можаш зрабіць — тут і цяпер, не перакладаючы адказнасць на некага іншага, і рабіць гэтую справу — вось падмурак аптымізму А. Станкевіча.

У 1938 годзе Станкевіч быў высланы па загаду віленскага ваяводы ў Слонім і вярнуўся ў Вільню пасля пачатку другой сусветнай вайны. Потым, як і ў першую сусветную, калейдаскапічна пачалі мяняцца ўлады — польская, савецкая, літоўская, зноў савецкая. Былі разагнаны ўсе беларускія арганізацыі, экспрапрыявана друкарня, закрыта гімназія. Пасля прыходу немцаў дзеля абароны беларускіх інтарэсаў перад новай уладай быў зноў створаны Беларускі нацыянальны камітэт. Беларускія нацыянальныя дзеячы імкнуліся ва ўмовах акупацыі наладзіць хоць колькі-небудзь ніштаватае жыццё для людзей, што трапілі пад новую навалу. Станкевіч тады выкладаў гісторыю Беларусі і рэлігію ў новаадкрытай Беларускай гімназіі, у Беларускай настаўніцкай і Віленскай духоўнай семінарыях, праводзіў набажэнствы ў касцёле Св. Міхаіла.

Пасля вайны, калі пры сталінскім рэжыме ўсялякая беларуская дзейнасць зноў стала немагчымай, Станкевіч цалкам аддае сябе душпастырскай працы пры віленскім касцёле Св. Тарэзы. Але летам 1949 года ён быў другі раз, пасля першага арышту ў 1944 годзе, завезены ў сутарэнні віленскага МДБ. Літоўскі святар Казімір Вайчоніс, якога таксама арыштавалі ў той час, распавядаў, што менавіта ксёндз Адам Станкевіч навучыў яго паважаць усе народы і ўсялякага чалавека як асобу, калі падтрымліваў вязняў сваёй камеры жартамі і смешнымі гісторыямі, а калі пасля начных допытаў яму не давалі спаць і ставілі да сцяны — прамаўляў ружанец на ўсіх вядомых яму мовах, у тым ліку і па-літоўску. Пасля інкрымінацыі Станкевічу супрацоўніцтва з японскай разведкай і контррэвалюцыйнай дзейнасці ён быў асуджаны на 25 гадоў па 58-му артыкулу і вывезены ў лагер пад Іркуцкам. 29 лістапада 1949 года Адама Станкевіча не стала.

**Віталь ЗАЙКА.**

**На здымку:** даваенны літоўскі пашпарт А. Станкевіча.

● ЛІСТ З ВІЛЬНІ

# Дзякуй, талака!

**30 студзеня ў заметцы «ВЫРУЧАЙ, ТАЛАКА!» мы перадалі нашым чытачам просьбу новаўтворанай кафедры беларусазнаўства Віленскага педагагічнага ўніверсітэта дапамагчы кнігамі. Днямі рэдакцыя атрымала ліст ад загадчыцы кафедры Лілеі ПЛЫГАЎКІ.**

«Вельмі прыемна адчуваць, — піша яна, — што нашы праблемы хвалююць людзей на Беларусі, што мы ў адраджэнскіх памкненнях не адзінокія. Шчыра кажучы, і верылася, і не верылася ў тое, што нехта адгукнецца. І былі б не ў крыўдзе: у кожнага ў наш час сваіх праблем досыць. Таму вялікай прыемнай неспадзяванкаю сталіся лісты, кнігі з добрымі словамі прывітання і маральнай падтрымкі, з сардэчнымі пажаданнямі і канкрэтнымі парадамі. За гэта вялікі дзякуй усім, хто не застаўся абыякавым да нас, хто адгукнуўся.

Хацелася б выказаць праз вашую газету шчырую ўдзячнасць шматлікім бібліятэкам, грамадскім арганізацыям і прыватным асобам, якія выказалі жаданне дапамагчы нам у зборы бібліятэкі аддзялення. Нас пачулі ў Браславе, Астраўцах, Добрушы, Ушачах, Ганцавічах, Дзятлаве, Мастах, Чачэрску, Бярозе, Бераставіцы, Мсціслаўлі. Кнігамі з намі падзяліліся вясковая бібліятэка з Новай Мышы, бібліятэкі Гродзенскага ўніверсітэта, Мінскага і Віцебскага педінстытутаў, салідарнасць праявілі калегі-філолагі з Брэста і Гомеля. Мы знайшлі падтрымку ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі і ў Беларускім фондзе культуры, Згуртаванні беларусаў свету «Бацькаўшчына», у далёкай Амерыцы ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва...

Дзякуй тым пісьменнікам і навукоўцам, якія знайшлі час даслаць нашым студэнтам сваю кнігу з аўтографамі: М. Чарняўскаму, М. Ткачову, У. Дамашэвічу, Г. Каханоўскаму. Дзякуй паважанаму Васілю Быкаву, што не пакінуў без адказу ліст і не адмовіў студэнтам у сустрэчы.

Цяжка пералічыць усіх, хто дапамог і дапамагае нам. Прыемна ўсведамляць, што Беларусь такая багатая на спагадлівасць і дабрыню. Хоць і жывём мы ў старадаўняй Вільні, але ж без Беларусі не зможам узнавіць яе культурныя, асветніцкія і гістарычныя традыцыі.

Цяпер хачу папрасіць тых, у каго ўзнікне жаданне і магчымасць дапамагчы беларусам Віленшчыны, накіроўваць літаратуру не ў Літву, бо перасылка за мяжу каштуе вельмі дорага, значна даражэй за кошт дасылаемых кніг. Саюз пісьменнікаў пайшоў нам насустрач і згадзіўся арганізаваць у Мінску, у Доме літаратара, цэнтр па збору кніг віленскім беларусам.

**Яго адрас такі: 220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакоі 305, 306».**



РАСЛІНЫ І ЗДАРОЎЕ

## Збіраем зёлкі

**Цяпер, калі паліцы аптэк фактычна пустыя, міжволі кожны з нас з надзеяй і асабліва пільнай увагай углядаецца ў розныя даведнікі па лекавых раслінах, скупляе зёлкі — патрэбныя і не зусім — на ўсялякі выпадак. А хто мае час, той ідзе ў лес, на луг, у поле — збіраць сабе гэтыя самыя зёлкі. Але нездарма кажуць: не ведаеш броду — не лезь у ваду. Бяздумным збіраннем зёлак можна нарабіць больш шкоды, а не дабра. І не толькі сабе, але і самім раслінам. Бо ўмовы і час збірання лекавых раслін маюць вельмі вялікае значэнне.**

**АДНО З АСНОЎНЫХ ПРАВІЛ: расліны трэба збіраць толькі ў сухое надвор'е.** Калі раніцой выпала раса або прайшоў дождж, трэба абавязкова пачакаць, пакуль расліны абсохнуць. Вільготныя — яны намнога даўжэй сохнуць, лёгка самасаграваюцца, псуюцца, губляюць лекавыя якасці.

**Нельга збіраць моцна запыленыя або забруджаныя расліны,** асабліва каля дарог з інтэнсіўным рухам транспарту. Пазбягайце збіраць зёлкі і ў тых мясцінах, якія былі апрацаваны ядахімікатамі. Ну і, зразумела, **нельга збіраць расліны, пашкоджаныя хваробамі або насякомымі-шкоднікамі.**

Пачатак веснавога руху соку з'яўляецца лепшым тэрмінам **нарыхтоўкі лекавай кары,** бо ў гэты час яна лягчэй за ўсё аддзяляецца ад драўніны.

**Карэнішчы, карані, клубні** лепш збіраць у перыяд, калі вяне надземная частка расліны, а падземныя часткі робяцца асабліва мясістымі. Вясной і ў час цвіцення падземныя часткі звычайна бываюць лёгкаважкімі, слабымі, друзлымі, вялымі.

Самым лепшым часам **нарыхтоўкі пупышак** лічыцца тая фаза іх развіцця, калі яны пайшлі ў рост, набрынялі, але яшчэ не распусціліся. У гэты час пупышкі найбольш багатыя на бальзамічныя і смаляністыя рэчывы.

**Збіраць лісце** трэба тады, калі яно ўпаўне разгарнулася, дасягнула свайго нармальнага развіцця, лепш за ўсё тады, калі расліна толькі-толькі пачынае цвісці.

**У час цвіцення, апрача кветак,** часта збіраюць і іншыя часткі раслін: лісце, сцябло, траву. Некаторыя зёлкі, напрыклад, цвінтарэй (залататысячнік), вадзяны перац, рэкамендуецца збіраць у пачатку цвіцення, а святаяннік, расянку — у час поўнага цвіцення.

А ўвогуле, трэба **ВЕЛЬМІ ДОБРА ВЕДАЦЬ АПТЫМАЛЬНЫЯ ТЭРМІНЫ** збірання зёлак і не лічыць для сябе лішнім параіцца на гэты конт з аптэкай, якая прымае раслінную лекавую сыравіну. Напрыклад, лісце ландышу, сабранае за 2—3 тыдні да пачатку цвіцення, амаль удвая багацейшае на гліказіды, чым сабранае ў час цвіцення.

**А ГЭТА АСАБЛІВА ВАЖНА: нельга вырываць расліну цалкам,** у разліку на тое, што сарціроўка будзе рабіцца пазней, дома. **Трэба збіраць толькі тыя яе часткі, якія САПРАЎДЫ НЕАБХОДНЫЯ.**

У пагоні за колькасцю сабранай лекавай сыравіны не забывайце, што мы жывём не апошні дзень — абавязкова паклапаціцеся аб узнаўленні лекавых раслін. Не забывайце, што інтэнсіўнае і безгаспадарчае збіранне можа прывесці да іх поўнага знішчэння. Нездарма многія назвы зёлак ужо занесены ў Чырвоную кнігу, і збіраць іх катэгарычна забаронена.

Каб прадухіліць знішчэнне лекавых раслін, пры нарыхтоўцы, напрыклад, кветак і суквеццяў аднагадовых і двухгадовых раслін трэба пакідаць на кожным квадратным метры хоць бы па некалькі экземпляраў. Тады расліна не знікне, на наступны год з'явяцца новыя парасткі, і можна будзе зноў весці нарыхтоўку. Карэнні, клубні, цыбуліны выкопваюць выбарачна, пакідаючы маладыя экземпляры для аднаўлення зараснікаў. А ўвогуле нарыхтоўку падземных частак раслін трэба весці толькі пасля паспявання і асыпання насення.

Каб не прынесці шкоды расліне і не загубіць яе, рэкамендуецца пакідаць частку лісця, асабліва на канцах галінак.

Нарыхтоўку кары рэкамендуецца рабіць са зрэзаных або ссечаных галінак, на лясных высечках, у час санітарных работ і да т. п.

**ЗЁЛКІ НАРЫХТАВАНЫ. А што далей?** Сыравіне пасля збірання абавязкова патрэбна пярвічная апрацоўка — ачыстка ад пабочных прымесей, ад дэфектных і згубіўшых натуральную афарбоўку частак. Чым хутчэй пасля збірання будзе праведзена пярвічная апрацоўка, тым менш будзе страт і тым вышэйшай будзе якасць нарыхтаванага матэрыялу.

**Сабраную сыравіну нельга доўга захоўваць у тары,** г. зн. 3—4 гадзіны — гэта ўжо занадта. Напрыклад, кветкі глогу, лісце бузіны — і таго менш: 1—2 гадзіны. Інакш яны злёжваюцца, самасаграваюцца і псуюцца.

**Сушыць зёлкі трэба пры пэўнай тэмпературы** для кожнага віду: з утрыманнем эфірных рэчываў (мацярдушка, чабор) — пры тэмпературы не вышэй 30—35 градусаў, з утрыманнем вітаміна С — 80—90 градусаў, з утрыманнем гліказідаў (ландыш, светнік) — 55—60 градусаў (пры гэтай тэмпературы хутчэй спыняюць дзейнасць ферменты, якія разбураюць гліказіды).

**На сонцы можна сушыць толькі некаторыя расліны,** у якіх каштоўныя рэчывы не разбураюцца пад уздзеяннем сонечных промняў (карэнішчы аеру, валяр'яну, карэнні алтэі). Сыравіну раскладаюць тонкім слоем на брызенце або на іншай тканіне, але не на штучнай, на ноч закрываюць для аховы ад расы і туману. Пляцоўка для сушкі павінна размяшчацца далей ад дарог, у зацішным месцы, каб сыравіна не запылілася.

Лепш за ўсё для гэтага прыстасаваць адкрытыя павеці з добрай вентыляцыяй і надзейнай аховай ад сонечных промняў і дажджоў. Такія павеці прыдатныя практычна для ўсіх тыпаў лекавых раслін.

Можна сушыць на гарышчы, у тым ліку пад жалезным або шыферным дахам, дзе ў сонечныя дні тэмпература ўзнімаецца да 40—50 градусаў. Расліны тут сохнуць хутка — за некалькі дзён і не губляюць уласцівыя ім лекавыя якасці. Такі спосаб можна асабліва рэкамендаваць тым, хто займаецца «прамысловай» нарыхтоўкай зёлак — для здачы ў аптэку.

Гарышча трэба ачысціць ад пабочных рэчаў, павуціння, смецця. Падлогу гарышча лепш накрыць брызентам або іншай тканінай, паперай. Класці сыравіну трэба слоем не больш як 10 сантыметраў.

**На гарышчы можна сушыць усе віды зёлак.**

**У халодны час** лекавую сыравіну, асабліва сакавітыя плады, карэнне і карэнішчы, **даводзіцца сушыць штучна.** Лепш за ўсё гэта рабіць у сялянскай печы, але можна і ў духоўцы. Трэба толькі дачакацца, калі тэмпература знізіцца да 40—60 градусаў. Сыравіну рассцілаюць слоем у 5—7 сантыметраў на лістах або рашотах і напалову зачыняюць комін.

За сушкай сыравіны ідзе **захоўванне гатовых зёлак.** Трэба памятаць, што сухія кветкі, трава, карэнне вельмі лёгка «ўспрымаюць» вільгаць. Таму захоўваць іх абавязкова трэба ў сухім месцы. Для гэтага можна выкарыстоўваць добра закрытыя папяровыя пакеты, бляшанкі (зноў жа выслапыя паперай), рознага памеру слоікі. Зёлкі лёгка «пераймаюць» пабочныя пахі, таму асабліва духмяныя (мята, чабор) лепш захоўваць асобна.

**Нямала людзей займаецца нарыхтоўкай зёлак «прафесіянальна» або дзеля пэўнага заробку. Яны быццам бы добра ведаюць усе правілы нарыхтовак. Але і ім нялішнім будзе пракансультавацца са спецыялістамі з тых аптэк, якія вядуць закупку лекавых раслін. У тым ліку і на той выпадак, калі пэўных раслін маецца ўжо вялікі запас і няма асаблівай патрэбы яе нарыхтоўваць яшчэ. Значыць, і расліны захаваюцца да лепшых часоў. А для навічкоў такія кансультацыі павінны быць абавязковым пажаданнем на дарогу перад нарыхтоўчым выхадам у поле, лес, на луг.**

НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

## Надвор'е прадказваем...

(Працяг. Пачатак у «Хатняй энцыклапедыі» за 19 чэрвеня г.г.).

### ...ПА ВЯСЁЛЦЫ

● Калі вясёлка пасля дажджу знікае хутка — чакайце яснага надвор'я. Калі ж пасля дажджу вясёлка стаіць доўга — будзе непагадзь.

● Вячэрняя вясёлка — прыкмета яснага надвор'я. Калі ж вясёлка з раніцы — чакайце непагадзі.

● Вясёлка з наветранага боку — дзень будзе дажджлівы, з падветранага боку — надвор'е неўзабаве праясніцца, дождж спыніцца.

### ...ПА РАСЕ І ТУМАНУ

● Ноччу выпала шмат расы — чакайце яснага надвор'я.

● К вечару вецер сціхае, а на траву кладзецца раса — да яснага надвор'я.

● На досвітку не бачна ні расы, ні туману ў нізінах — будзе непагадзь.

● Калі начная раса не высыхае — чакайце навальніцы.

### ...ПА СОНЦУ І ЗОРКАХ

● У летнюю ноч шмат зорак на небе — дзень будзе гарачым.

● Белаватыя воблакі над вадой, якія хутка знікаюць пры ўзыходзе сонца, — прыкмета яснага надвор'я.

● Калі сонца ўзыходзіць у тумане, днём будзе ціха і душна — да яснага надвор'я.

● Пры захадзе сонца неба зацягваецца з поўначы — быць ветру.

### ...ПА ДРЭВАХ І РАСЛІНАХ

● Лес шуміць летам — перад непагаддзю.

● Яліна перад дажджом падымае галіны.

● Адсырэла падсохшае сена на лузе — быць дажджу.

● На лісці каштана выдзяляецца шмат кропель клейкай вадкасці — праз суткі-двое надыдзе працяглы дажджлівы перыяд.

● Клён «плача» за тры-чатыры гадзіны перад дажджом.

● Вельмі адчувальныя да змяненняў надвор'я кветкі наготкаў і мальвы. Гэта сапраўдныя прадказальнікі надвор'я. Калі пры яшчэ чыстым, блакітным, бяздонным небе гэтыя кветкі старанна склалі свае пялёсткі і быццам павялі — неўзабаве будзе дождж.

● Шыпшына перад дажджом не раскрывае сваіх бутонаў.

● Перад дажджом многія кветкі пахнуць мацней, чым звычайна.

(Працяг у наступным выпуску «Хатняй энцыклапедыі»).

# РОЗГАЛАС

## УДАРНЫЯ ХВАЛІ—КАРЫСНЫЯ?

**Дзе і як могуць сустрэцца супрацоўнікі Ліверморскай нацыянальнай лабараторыі з ЗША, Арзамаса-16, канцэрна МББ (Месершміт—Бёлькаў-Блом) з Германіі? Крыху раней такое пытанне гучала б рытарычна, бо прадугледжвала просты адказ. Аб кантактах вучоных, якія працуюць «на абаронку», практычна ніхто не чуў. Са змяненнем агульнай абстаноўкі ў свеце, зняццем з парадку дня пытання ядзернага процістаяння відавочнай стала патрэба ў дыялогу, абмеркаванні вынікаў фундаментальных даследаванняў.**

Адна з такіх сустрэч адбылася ў Мінску. Арганізатары міжнароднай школы-семінара «Фізіка і газадынаміка ўдарных хваляў» спачатку баяліся, што колькасць удзельнікаў будзе зусім невялікай. Аднак актуальнасць праблематыкі, дасягненні навуковых школ з Масквы, Новасібірска, Мінска сабралі звыш 100 вучоных з Беларусі, Расіі, ЗША, Германіі, Францыі, Польшчы.

Ударная хваля ставарае асаблівы стан асяроддзя, у якім дасягаюцца гранічныя параметры. Напрыклад, без істотных цяжкасцей магчыма атрымаць тэмпературу ў 3.000—5.000 градусаў. Гэтыя абставіны робяць даследаванні і мадэліраванне працэсаў складанымі, але і выключна эфектыўнымі для тэхналагічных мэт. Праўда, ударную хвалю трэба ўтаймаваць, зрабіць «паслухмянай». Тады стане магчымым атрыманне новых матэрыялаў і кампазіцый, ажыццяўленне «выбуховых» тэхналогій і шмат што іншае. Падкрэслім: у стваральных мэтах.

У школе-семінары былі прачытаны 40 лекцый, прадстаўлены больш за 120 стэндавых дакладаў, частка з якіх належала вучоным з Беларусі—інстытутаў цепла- і масаабмену і парашковай металургіі. Гэта не выпадкова, бо адным з заснавальнікаў фізікі ўдарных хваляў быў наш славуты зямляк — тройчы Герой Сацыялістычнай Працы Якаў Зельдовіч. І пошук ў гэтай галіне ў рэспубліцы вядуць у шэрагу навуковых устаноў і ВНУ.

**У. ДРАГУН,**
**кандыдат тэхнічных навук.**

ВАЧАМІ САЦЫЁЛАГА

## 7. ПАГРОЗА БЕСПРАЦОЎЯ

**(Працяг. Пачатак у №№ 119, 120, 122—124, 126)**

Боязь беспрацоўя апаноўвае палавіну апытаных. І гэты паказчык за два гады змяніўся зусім нязначна. Толькі адзін з пяці апытаных упэўнены ў захаванні свайго рабочага месца. Зразумела, што гэта красамоўны паказчык трывогі, няўпэўненасці, неспакою. На Захадзе ў беспрацоўі бачаць і станоўчыя, дысцыплінуючыя моманты. У нас яны пакуль што прыкметна не праяўляюцца. Магчымасці паўторнага працаўладкавання ацэньваюцца нізка. Дакладней, гэта звязваецца з неабходнасцю перавучвацца, мяняць прафесію.

У той жа час апытаныя бачаць на сваіх прадпрыемствах нямала магчымасцей для папярэджання беспрацоўя, стварэння новых працоўных месц, перападрыхтоўкі вызваленых работнікаў. Маральны бок беспрацоўя ўспрымаецца нават больш востра, чым матэрыяльны.

**1. ЦІ БАІЦЕСЯ ВЫ ЗАСТАЦЦА БЕЗ РАБОТЫ!**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Мне гэта не пагражае | 22,5 | (22,0) |
| 2. Усё можа быць | 50,8 | (49,3) |
| 3. Так, мяне гэта непакоіць | 24,1 | (27,4) |
| 4. Няма адказу | 2,6 | (1,3) |

**2. КАЛІ ВЫ ЎСЁ Ж НЕ ВЫКЛЮЧАЕЦЕ ПАГРОЗЫ БЕСПРАЦОЎЯ, ТО ПАСПРАБУЙЦЕ АЦАНІЦЬ СВАЕ ШАНЦЫ ЎЛАДКАВАЦЦА НА РАБОТУ НА ІНШЫМ ПРАДПРЫЕМСТВЕ (УСТАНОВЕ).**

| | |
|---|---|
| 1. Я без асаблівай цяжкасці змагу знайсці сабе работу, бо мая прафесія — вострадэфіцытная | 12,0 |
| 2. У мяне ёсць шанцы, але прыйдзецца ўладкоўвацца на іншую работу, якая не адпавядае маёй кваліфікацыі | 20,8 |
| 3. Магу, але работа, відаць, будзе нізкааплачваемай, якая не патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі | 8,9 |
| 4. Хутчэй за ўсё прыйдзецца перакваліфікавацца | 17,1 |
| 5. Наўрад ці змагу | 8,0 |
| 6. Цяжка сказаць | 25,9 |
| 7. Няма адказу | 7,3 |

**3. ШТО МОЖНА ЗРАБІЦЬ НА ВАШЫМ ПРАДПРЫЕМСТВЕ ДЛЯ ПАПЯРЭДЖАННЯ БЕСПРАЦОЎЯ!**

| | |
|---|---|
| 1. Расшырыць віды выпускаемай прадукцыі | 52,9 |
| 2. Арганізаваць перападрыхтоўку | 31,0 |
| 3. Павялічыць кштарыс | 6,1 |
| 4. Скараціць рабочы дзень | 10,8 |
| 5. Зменшыць рабочы тыдзень | 36,8 |

**(Заканчэнне будзе).**

# Лезем з дрыгвы. Але куды і як?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

першапачатковага накаплення капіталу. А гэта ў сваю чаргу азначае, што мы павінны перажыць тое, што перажылі ў Заходняй Еўропе ў XIX—XX стагоддзях. А гэта значыць, што нас чакае новае, яшчэ больш цяжкае і доўгае цярпенне. Ці ўсе згодны зноў цярпець?

Калі хтосьці лічыць, што капіталізм — гэта тое, што пабудавана, скажам, у Германіі, то ён памыляецца. Давайце паглядзім, што думаюць з гэтага выпадку самі немцы. Звернемся да часопіса «Шпігель» (№ 37, 1991 г.): у Германіі, якая ніколі не ведала капіталізму манчэстэрскай школы і ўжо з часоў усеагульнага зямельнага кодэксу 1794 года зацвердзіла сацыяльную дысцыпліну ў процівагу празе прыбытку, сёння дзяржава аказвае ўплыў на размеркаванне палавіны сацыяльнага прадукта і прысвойвае значную долю прыбытку.

Рабочыя сур'ёзна абмяжоўваюць прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці з дапамогай палітыкі згоды, дзейнасці саветаў прадпрыемстваў і прафсаюзаў. Канстытуцыя абвяшчае, а федэральны суд нядаўна зноў пацвердзіў узяты з сацыялістычнага рэпертуару прынцып: агульная карысць мае прыярытэт перад дабрабытам асабістым.

Грамадскі лад, які ўяўляўся Марксу ў якасці пераходнага этапу на шляху да камунізму і названы Леніным «сацыялізмам», сёння на Захадзе, можна сказаць, напалавіну ажыццёўлены: замест заработнай платы, абмежаванай вяртаннем мінімальных затрат на ўзнаўленне рабочай сілы, зацвердзіўся прынцып зарплаты па працы, які ўпаўне ўзгоднены з сацыялістычнай тэорыяй.

Сацыяльная рэвалюцыя на Захадзе перамагла ў ходзе працяглай эры прафсаюзнай, парламенцкай, «публіцыстычнай» і юрыдычнай барацьбы. Гэты паварот стаў магчымы і ў выніку прарыву ў сферы вытворчасці: тэхнічны прагрэс адкрыў прастор масавай вытворчасці танных тавараў. Палітыка рэгулявання даходаў садзейнічала таму, што капіталісты сталі заахвочваць вытворцаў да саўдзелу ў прыбытках і тым самым павышаць узровень іх жыцця. Гульня паміж попытам і прапановай не закранае рашаючых галін народнай гаспадаркі: большасць жылля, медыцынскае абслугоўванне і дзяржаўнае тэлебачанне, рознага роду дапамогі, грамадскі транспарт і культура зусім не трапляюць у сферу дзеяння законаў рынку. У той жа Германіі няма рэзкага дзялення паміж вярхамі і нізамі, як гэта робіцца ў нас. На дапамогі па старасці, адукацыю і жыллёвае будаўніцтва, спорт дзяржава выдзяляе вялікія сродкі.

Нам заяўляюць, што на рынку не падаюць. У Германіі — рыначная эканоміка, але там нават тыя 3,8 мільёна чалавек, на якіх распаўсюджваецца сацыяльная дапамога, жывуць ва ўмовах, якія адпавядаюць чалавечай годнасці. Яны маюць заканадаўчае права на дапамогу і бясплатнае жыллё, дзяржава размяркоўвае сярод іх адзенне, мэблю, пральныя машыны і халадзільнікі, не кажучы ўжо аб гарантаваным лячэнні.

У былым жа СССР рынак азначае толькі поўную свабоду. Але адным — свабоду памерці ад голаду, другім — свабоду рабавання сваіх сабратоў. І ўсё гэта замаскіравана ў цэлым правільнымі думкамі аб перавагах рыначных адносін.

Рынак — вялікае вынаходства чалавецтва. Але сам па сабе рынак усё-такі сляпы і эгаістычны. Дзяржаўнае рэгуляванне, як карэкціруючы і, калі хочаце, цывілізуючы фактар, становіцца такім жа важным, як і сам рынак. Дзяржаўны пачатак у Германіі, Францыі і іншых краінах вельмі вялікі. У крытычныя перыяды ён і выратаваў дзяржаву, а не рыначны хаос, у якім шукаем выратаванне сёння мы. Сацыяльная ж арыентацыя эканомікі, якая эфектыўна ажыццяўляецца з дапамогай менавіта дзяржаўнага рэгулявання, патрэбна не для таго, каб раздзяляць паміж усімі пароўну, а для надання грамадству элементаў гармоніі.

Нам патрэбна вельмі моцная дзяржава. Сёння яе няма. Больш таго, існуе мноства дэстабілізуючых фактараў. Моцная дзяржава — гэта зусім не абавязкова прэзідэнцкая рэспубліка, як нас хочуць пераканаць. Асабіста я не хачу залежаць ад абставін. Хто дасць гарантыі, што прэзідэнтам стане разумнейшы з палітыкаў рэспублікі? Нам патрэбны моцны калектыўны розум у асобе Вярхоўнага Савета і кабінет міністраў, які складаецца з мацнейшых тэарэтыкаў і практыкаў з вялікімі паўнамоцтвамі.

У мяне такое ўражанне, што гэтыя органы складаюцца з дачаснікаў. Так было, так ёсць, так будзе. Хто б ні прыйшоў да ўлады — «злачынныя» камуністы або «святыя» дэмакраты — яны будуць вырашаць перш за ўсё свае праблемы або праблемы сваіх партый і сацыяльных груп.

Увогуле, як добра вырашаць праблемы, скажам, сельскай гаспадаркі, не прайшоўшы пры гэтым і баразны за плугам. Як добра думаць аб прыватызацыі жылля, седзячы ў прафесарскім кабінеце сваёй кватэры. Многія дэпутаты прапануюць бясплатную прыватызацыю. Я, напрыклад, сваёй кватэры не маю, але з 1978 года плачу падаткі і ў кожнай пабудаванай кватэры ёсць і мая капейка. Я не за бясплатнае жыллё, але кватэру за 300 — 400 тысяч пры сучаснай зарплаце і цэнах у магазінах пабудаваць не змагу. Хтосьці прапануе зрабіць так, каб на жыллё ішла трэцяя частка зарплаты, «як у цывілізаваных краінах». Але паглядзіце на нашу недаразвітую структуру расходаў. Калі месяц наведвання дзецьмі садзіка абыходзіцца ў тысячу рублёў і пры жорсткай эканоміі людзі ледзь-ледзь дацягваюць да наступнай зарплаты, то якія могуць быць супастаўленні?! У цывілізаваных краінах такое жыллё, у якім жывуць нашы людзі, практычна з'яўляецца бясплатным. Багатыя ж людзі ў гэтых дамах не жывуць. За свае загарадныя катэджы яны, сапраўды, плоцяць трэць зарплаты, але якой зарплаты!

Мы спрабуем вылезці з дрыгвы, але куды і як? На жаль, аб гэтым мала задумваемся. Патрэбны няспешныя, абдуманыя рухі ў рэформах. Мы ж слепа бяром за ўзоры чужаземныя мадэлі. Чаго прасцей: рынак вырашыць, якія вытворчасці нам будуць патрэбныя, а якія не. Аб'явім «Гомсельмаш» банкротам, і ўсе справы. Але «Гомсельмаш» — гэта яшчэ і людзі. У дрыгву залазілі разам, а вылазіць па аднаму?

Цяпер адно выйсце: устанавіць прыкладна аднолькавы ўзровень зарплаты ва ўсіх галінах, спыніць рост цэн і ўсім разам выратаваць банкрутаў, не даць ім разваліцца, не разбазарваць народнае дабро, даць людзям, якія працуюць на гэтых заводах, шанц і час перапрафіляваца і пры гэтым не памерці з голаду. Інакш усё, што адбываецца сёння, будзе не пераходам да рынку, а шляхам у нікуды.

Рэформы ажыццяўляюцца без уліку «выжывання» народа. Час ужо спыніцца. Хопіць злоўжываць цярпеннем народа. Ужо даўно дзеляць народнае дабро, а людзі, якія стварылі яго, стаяць убаку ў ролі назіральнікаў. Народ павінен стаць галоўнай асобай прыватызацыі. Пры гэтым і прыватная ўласнасць не панацэя ад усіх бед.

І галоўнае: шлях, прапанаваны нам — гэта шлях не да цывілізацыі, а шлях ад адной цывілізацыі да другой. Славянскі свет заўсёды развіваўся адасоблена ад астатняй Еўропы, жыў нібыта ў іншым вымярэнні. Цяпер, каб увайсці ў Еўропу, над народам робіцца насілле. Але чым гэта насілле лепшае, чым тое, якое было ажыццёўлена бальшавікамі? Гэта чарговая ўтопія, якая патрабуе чарговых ахвяр, цярпення ад народа на шляху да «светлага будучага».

**Юрый КЛІНЦОЎ,**
**гісторык.**

г. Гомель.

ФУТБОЛ

## Фінал, дастойны ўзнагароды

**ЗАВЯРШЫЎСЯ РОЗЫГРЫШ КУБКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ФУТБОЛУ**

**Фінальны матч, які адбыўся пазаўчора на мінскім стадыёне «Дынама», стаў сапраўдным упрыгожаннем турніра, які, несумненна, у будучым стане святам...**

Упрыгожылі фінал найперш забітыя мячы. Паядынак лідэраў сёлетняга футбольнага сезона — дынамаўцаў Мінска і магілёўскага «Дняпра» —атрымаўся вострым і бескампрамісным. Пачаўшы гульню без разведкі, актыўна, і гаспадары, і госці выдатна разумелі: пераможца будзе адзін! Больш вопытным і спрактыкаваным у кубкавых баталіях дынамаўцам атакі ўдаваліся часцей. Аднак толькі на зыходзе першага тайма 19-гадовы паўабаронца Валянцін Бялькевіч адкрыў лік. Затое ў другой палове матча галы былі на любы густ. Юрый Антановіч і Валерый Вялічка даводзяць лік да 3:0, але Міхаіл Смірноў з пенальці скарачае разрыў — 1:3. Гэта, тым не менш, не спыніла дынамаўскі парыў. За 12 хвілін да фінальнага свістка суддзі міжнароднай катэгорыі Вадзіма Жука «свой» гол забіў Сяргей Герасімец, а потым наступіла чарга Уладзіміра Жураўля. Двойчы прымусіў і ён галкіпера «Дняпра» Андрэя Любчанку капітуляваць перад «Дынама». 6:1—лік для фінальнай сустрэчы, пагадзіцеся, надзвычай нечаканы...

Выступаючы сваім самым баявым саставам, магіляўчане, на жаль, не змаглі настроіцца на адказны матч, яўна «перагарэлі». Каманда, якая ў 14-ці гульнях чэмпіяната рэспублікі прапусціла ў свае вароты ўсяго толькі тры мячы, на гэты раз шэсць разоў пачынала з цэнтра поля. Не змаглі павесці за сабой і футбалісты, якія так парадавалі прыхільнікаў «Дняпра» ў шэрагу іншых паядынкаў, і найперш лепшы бамбардзір сезона Андрэй Скарабагацька, Алег Радушка, Сяргей Дамашэвіч, Віктар Навумаў...

Заваяваўшы Кубак Беларусі, дынамаўцы Мінска маюць вялікі шанц зрабіць у першым «самастойным» футбольным сезоне ў рэспубліцы так званы дубль: атрымаць і вышэйшыя ўзнагароды чэмпіяната. У турніры, у якім засталіся не згулянымі матчы «Дынама»—«Ведрыч» і «Днепр»—«БелАЗ», яны на ачко апярэджваюць магіляўчан. Кубкавы паядынак паказаў: «дзяліцца» вышэйшымі прызамі флагман беларускага футбола намеру зусім не мае...

Як вядома, акрамя гэтых сустрэч, былі прапушчаны яшчэ дзве: «Металург» — «Будаўнік» і «Шахцёр» — «Дынама» (Брэст). Яны закончыліся ўнічыю—0:0 і 1:1 адпаведна. **Такім чынам, бронзавыя медалі сезона-92 дасталіся брастаўчанам: набраўшы аднолькавую колькасць ачкоў з бабруйскім «Трактарам», яны апярэдзілі іх па выніку сустрэчы паміж сабой, якую выйгралі—2:0.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ЗАСТАНЁМСЯ БЕЗ БЛАНДЗІНАК!

Калі верыць даным Усерасійскага цэнтра вывучэння грамадскай думкі, 74 працэнты мужчын любяць бландзінак, незалежна ад колеру ўласных валасоў. Аднак бландзінак, па сцвярджэнню статыстыкі, становіцца ўсё менш і менш, а некаторыя антраполагі лічаць, што яны наогул праз сто гадоў могуць знікнуць. Прычыну гэтай з'явы вучоныя пакуль што растлумачыць не ў стане, аднак большасць з іх мяркуе, што ўся справа ў харчаванні: нібыта, калі харчавацца ў асноўным рыбай, а не мясам, то больш шанцаў нарадзіць дзіця са светлымі валасамі.

### БЫЎ ГУРТОК, СТАЎ «КАМОК»

Па Латвіі пракацілася хваля ліквідацыі ўстаноў, звязаных з пазашкольнай работай. Адзін за адным супрацоўнікі станцый юных тэхнікаў, юных натуралістаў, гурткоў па інтарэсах і дамоў творчасці моладзі атрымліваюць паведамленні аб тым, што фінансаванне іх устаноў з мясцовых бюджэтаў спыняецца, а самі яны з работы звольнены. Вось і апошні факт: Екабпілская станцыя юных тэхнікаў закрыта, а ў памяшканні, якое яна займала, размясціўся камісійны магазін.

### ЖУРНАЛІСТ ЗАЎСЁДЫ МАЕ РАЦЫЮ!

Не заціхае скандал вакол артыкула ў «Ээсці Экспрэс», у якім журналістка Марыяна Міка ўпамянула аб «цёмным, калі не сказаць кадэбэшным мінулым» ультраправага дэпутата парламента Тыйта Мадэ. Ахаяны дэпутат, які сам да гэтага часу паспяхова абвінавачваў у сувязях з КПСС і КДБ сваіх палітычных праціўнікаў, падаў у суд. Газета прадставіла 19 дакументаў, што пацвярджалі правамернасць выказвання свайго аўтара, аднак суд вырашыў справу на карысць. Праз два тыдні талінскі «Вечерний курьер» у трох нумарах запар надрукаваў матэрыял рэдактара «Ээсці Экспрэс» Х. Луйка пад назвай «Наш журналіст быў не вінаваты».

### МАРОЖАНАЕ-ЗАБОЙЦА

Адзін чалавек загінуў, 57 дастаўлены ў бальніцу ў цяжкім стане. Усе яны паелі... марожанага ў кафэ горада Акбулак Арэнбургскай вобласці. Папярэдні дыягназ — сальманелёз.

### СУД ЛІНЧА ПА-ЛІТОЎСКУ

У літоўскім пасёлку Вілайняй невядомы мужчына, заманіўшы двух пяцігадовых хлопчыкаў на бераг ракі, учыніў у адносінах да іх, як гаворыцца ў афіцыяльных дакументах, «распусныя дзеянні». За гэтым заняткам яго і «застукалі» мясцовыя жыхары. Калі з'явілася паліцыя, пяць дзесяткаў раз'юшаных грамадзян ужо здзейснілі свой прыгавор.

### ПЕРМСКАЯ ГРЭЧКА

У тры разы павялічыліся ў гэтым годзе плошчы, засеяныя ў Пермскай вобласці грэчкай. Тое, што не маглі зрабіць раней адміністрацыйныя загады, аказалася простым для свабодных цэн. Пры сённяшнім іх узроўні грэцкія крупы сталі звышрэнтабельным прадуктам.

## СЛОНІМСКІЯ КРЫМІНАЛЬНЫЯ НАВІНЫ

**Відаць, у Стамбуле ўявіў сябе галоўны бухгалтар турэцкай фірмы «Энка» Мятлі Аздэмір, пакінуўшы сярод Слоніма без нагляду сваю «Ніву». Літаральна за некалькі хвілін машына была «абчышчана». Праз незакрытыя дзверцы злодзей, не міргнуўшы вокам, забраў магнітафон «Соні» і знік у невядомым напрамку.**

***

**З думкамі аб Германіі клаўся спаць жыхар горада М., які нядаўна вярнуўся з-за кардона. Па старой «нямецкай» прывычцы ён пакінуў свой «Масквіч»-фургон адкрытым і з неверагодна каштоўным цяпер таварам: імпартнымі спартыўнымі касцюмамі, красоўкамі, курткамі.**

**Раніцай фургон аказаўся пустым і... «чыстым»: зладзеі не забылі «падмесці» тавар, кошт якога ўражвае — амаль мільён рублёў.**

## КУДЫ ЎЖО ДАЛЕЙ...

**ЛУНІНЕЦ. Усяго некалькі дзён спатрэбілася лунінецкай міліцыі, каб знайсці забойцаў 63-гадовай жыхаркі ляснога хутара, што ў кіламетры ад вёскі Бастынь.**

Высветлілася, што злачынцы (а імі аказаліся двое мясцовых жыхароў), за спінай якіх ужо «віселі» судзімасці, зайшлі да бабулі, каб распіць бутэльку самагонкі. Прапусціўшы па чарцы, бамбізы запатрабавалі ў адзінокай жанчыны грошы. А калі тая не згадзілася, яны абодва накінуліся на яе: спачатку згвалтавалі, а потым пасеклі сякерай галаву.

Падпаліўшы хату знутры, забойцы думалі, што слядоў не застанецца. Але памыліліся. Знайшліся відавочцы, якія бачылі гэтых аднавяскоўцаў з акрываўленымі рукамі. А ў доме, яшчэ са злосным пахам «сівухі», сведкай была бутэлька.

«ІНТЭРФАКС» ПАВЕДАМЛЯЕ

## 14-Я АРМІЯ ЗБІЛА ДЗВЕ ПАВЕТРАНЫЯ ЦЭЛІ МАЛДОВЫ

Паводле даных прэс-цэнтра ўрада Прыднястроўскай Рэспублікі, у ноч на 25 чэрвеня самалёты Нацыянальнай арміі Малдовы, у тым ліку, як мяркуюць, МІГ-29 і верталёты, зрабілі спробу аблёту Бендэр, Паркан і Ціраспаля. «ППА 14-й расійскай арміі прымяніла зенітную ракетную сістэму «Шыпка» і ракеты «Аса». Як мяркуецца, 2 паветраныя цэлі знішчаны, гаворыцца ў паведамленні прэс-цэнтра.

У сваю чаргу ваенны савет 14-й арміі заявіў у чацвер, што на працягу апошніх трох дзён у зоне канфлікту ажыццяўляюцца інтэнсіўныя палёты авіяцыі ВПС Малдовы і Румыніі. Сродкамі проціпаветранай абароны арміі зафіксаваны палёты да 30 паветраных аб'ектаў у напрамку аэрадрома Маркулешты і да 10 паветраных аб'ектаў з боку Румыніі. Ваенны савет лічыць, што гэтыя палёты «не пакідаюць сумненняў у тым, што вядзецца планамерная і мэтанакіраваная разведка цэлей і падрыхтоўка масіраванага выкарыстання ВПС Малдовы ў зоне канфлікту».

Між тым у міністэрстве ўнутраных спраў Малдовы карэспандэнту «Інтэрфакса» паведамілі, што мінулай ноччу ў цэнтры Бендэр прыднястроўскія гвардзейцы атакавалі гарадскі аддзел паліцыі. У ходзе перастрэлкі быў падбіты 1 бронетранспарцёр гвардыі, загінулі 2 паліцэйскія. Цяпер цэнтр Бендэр кантралююць сілы гвардзейцаў, паведамілі ў МУС Малдовы. Нацыянальная армія і паліцыя размяшчаюцца на ўскраінах горада.

### АД РЭДАКЦЫІ:

Дасылаючы гэты ліст, аўтар прапанаваў і рубрыку да яго—«Настрой».

Не будзем спрачацца наконт яе вартасцей, але вось тое, што ў пісьме пэўным чынам адлюстраваны цяперашні грамадскі настрой (што, увогуле, і прадвызначыла яго публікацыю) — гэта бясспрэчна. Узнёсла пачаўшы перабудову, мы моцна спатыкаемся на шляху рэформ, нярэдка ўвогуле топчамся на месцы, дабрабыт жа народа тым часам, які і раней быў далёка не лепшы, зусім пакаціўся ўніз.

А на гэтым фоне — рэзкі ўзлёт па даходах тых, хто скарыстаў сітуацыю, злавіў момант, адсюль, як вынік, — рэзкае, нябачнае нават у «іх», расслаенне грамадства на багатых і жабракоў... І вось ужо загучалі песімістычныя ноткі, стаў адчувальна прабівацца антырыначны настрой. Аднак што ж цяпер — назад?

Бясспрэчна, назад шляху не можа быць, разам з тым усякае прамаруджанне ў эканамічных пераўтварэннях, нерашучасць, таптанне на месцы могуць дорага нам абысціся, запатрабаваць ад нас яшчэ большых ахвяр на гэтым нялёгкім, зацяжным пераходзе.

**Прынамсі, а як мяркуюць наконт усяго гэтага чытачы?**

УРОКІ МАЙСТЭРСТВА. № 1

## Беларуская саломка

**Гэтае словаспалучэнне ўжо стала энцыклапедычным. Ва ўсім свеце ведаюць творчасць беларускіх майстроў саломапляцення, іх куфэркі, скарбонкі, фігуркі людзей, птушак, жывёл, сплеценыя з простага празаічнага матэрыялу. Здавалася б, салома ўсюды аднолькавая, але толькі ў Беларусі расквітнела мастацтва яе апрацоўкі, якое мае тут глыбокія карані і багатыя традыцыі.**

Разам з захапленнем гэтым цікавым самабытным мастацтвам у многіх узнікае жаданне самім авалодаць сакрэтамі рамяства. Часам адпужвае звычайная боязь: а ці проста гэта? Але варта толькі ўзяцца — і вы самі пераканаецеся, што асаблівых складанасцей тут няма. Больш таго: работа з саломай — занятак, даступны нават дзецям. Не трэба тут ні вострых інструментаў, ні складанага абсталявання, як, скажам, у разьбярстве ці ганчарстве. Пучок саломы ды крыху фантазіі. Зрэшты, можна абысціся і без фантазіі, апіраючыся на здабыткі многіх пакаленняў майстроў саломапляцення.

Спее збажына, і самы час заняцца нарыхтоўкай саломы. Найбольш прыдатнай лічыцца жытняя: у яе тонкае роўнае сцябло з доўгімі звёнамі ад вузельчыка да вузельчыка. Калі зерне ўжо налілося, але не зусім саспела (малочна-васковая спеласць), нажніце жыта сярпом ці настрыжыце нажніцамі. Дзе? Вырашайце самі. Магчыма, дамовіцеся ў калгасе ці саўгасе, а можа ў каго на ўчастку расце. Зерне здайце гаспадарам, салому звяжыце ў пучкі і пакладзіце ў сухое месца (напрыклад, на гарышча), дзе яна можа захоўвацца гадамі. Можна кожнае сцябло нарэзаць па вузельчыках на саломінкі, ачысціць ад лісця, адсартаваць па таўшчыні і ўжо тады звязаць у пучкі.

А цяпер паспрабуем штонебудзь зрабіць. Пачнём з простага. Няхай гэта будзе так званы павук. Пэўна, даводзілася бачыць у музеях, на выстаўках ці ў кніжках арыгінальныя рамбічныя канструкцыі з саломінак, якія ўражваюць адмысловай ці то рашэцістай, ці то крышталічнай структурай. Калісьці яны віселі амаль у кожнай беларускай хаце і ў старажытнасці, відаць, выконвалі нейкую магічную ролю. Падвешаны ў покуце над сталом, павук паціху паварочваўся ў цёплых патоках паветра ад ежы, паблісквачы сваімі гранямі-саломінкамі.

Павукі бываюць розных відаў і форм, але найбольш прыгожы, бадай, рамбічны. Яго і зробім.

Вазьміце 12 самых доўгіх і тоўстых саломінак. Нанізвайце іх па 4 на нітку і звяжыце 3 квадраты (рыс. 1). Змацуйце ніткамі вяршыні квадратаў так, каб атрымалася прасторавая рамбічная фігура (рыс. 2). Гэта і ёсць аснова для павука любой складанасці.

Цяпер вазьміце саломінкі разы ў 3—4 карацейшыя і крышку танчэйшыя, звяжыце 5 маленькіх ромбікаў і пачапіце іх на нітках да ніжняга і чатырох бакавых вуглоў асноўнага ромба (рыс. 3). Ніткі падвескі замаскіруйце надзетымі на іх саламянымі трубачкамі. Вось і гатоў самы просты павук, за вяршыню яго можна падвесіць да столі. Але вы, пэўна, ужо зразумелі прынцыпы яго будовы і на гэтым не спыніцеся. Так, да пяці малых можна падвесіць па пяць яшчэ меншых ромбікаў, прычапіць іх і ўнутры асноўнага ромба і г. д. Найбольш адмысловыя павукі налічваюць сотні дэталей. Іх канструктыўную аснову ў народзе нярэдка дадаткова аздаблялі каляровай паперай, пер'ем, насеннем лубіну, фасолі і інш. Вельмі арганічна і дэкаратыўна выглядаюць розныя ланцужкі, кветачкі, кутасікі, зробленыя з саламяных стужачак.

Хоць салома — матэрыял лёгкі, але складаныя павукі —канструкцыі досыць важкія. Асабліва значная нагрузка прыпадае на цэнтральны ромб. Таму, каб саломінкі не расшчэпліваліся, іх канцы варта прамазаць водаэмульсійным клеем (ПВА). Некаторыя майстры ў саломінкі цэнтральнай фігуры нават устаўляюць пластмасавыя трубачкі.

Як бачыце, нічога асаблівага складанага. На наступным уроку зоймемся фігурным пляценнем.





СМАЧНА ЕСЦІ!

## Было б малако, а сыр зробім самі

**Гэты сыр вельмі падобны на вядомы сыр «Янтар». Сыпкі тварог пакласці ў алюмініевую каструлю з маслам ці маргарынам. Як толькі тварог пачне плавіцца, агонь зменшыць да сярэдняга, а памешванне пачасціць. Гатовы сыр павінен стаць жаўтаватай аднароднай масай без тварожных крупінак.**

**Пры жаданні тварог можна пасаліць ці падсаладзіць, але рабіць гэта трэба ў самы апошні момант. Гатовы сыр разліць вялікай лыжкай у сухія пастэрылізаваныя слоікі і закатаць пракіпячонымі накрыўкамі.**

Для прыгатавання 1 кілаграма сыру возьмем 8,5 шклянкі абястлушчанага тварагу і 2,5 сталовыя лыжкі масла, 2 чайныя лыжкі пітной соды і 3 чайныя лыжкі дробнай солі. Тварог прапусцім праз мясарубку і выкладзем у металічную каструлю. Па паверхні тварагу раўнамерна рассыплем 1 чайную лыжку соды і падагрэем на невялікім агні, няспынна памешваючы абавязкова драўлянай лыжкай. Калі ў гэты час каля сценак посуду з'явіцца сыроватка, здыміце каструлю з пліты на 10—15 хвілін, накрыўшы накрыўкай, а потым злі́ўшы сыроватку, працягвайце награванне. Калі сыроватку цалкам зліць не ўдаецца, прысыпце паверхню сырнай масы яшчэ адной чайнай лыжкай соды і зноў стаўце награваць.

Пасля таго, як сырная маса добра расплавіцца і крыху загусне, у яе кладзецца растопленае масла. За 15—20 хвілін да канца варкі дадаецца соль.

Калі сырная маса стане аднароднай і цягучай, можна здымаць з агню. Яе неадкладна трэба выкласці ў чысты посуд, змазаны маслам, і вынесці ў халоднае месца. Перад тым, як даставаць астуджаны сыр з посуду, яго на некалькі секунд змяшчаюць у гарачую ваду.

**Прыгатаванне сыру па наступнаму рэцэпту не патрабуе асаблівага навыку, ён атрымаецца з першага разу і стане адной з любімых дамашніх страў. Калі ў вас ёсць хоць нейкая дамашняя ферма, дык, напэўна, знойдуцца ўсе асноўныя прадукты для вырабу гэтага сыру.**



Спатрэбяцца 3 літры малака, 1 літр смятаны, 5 яек, па 1 сталовай лыжцы солі і цукру. Акрамя таго, падрыхтуем раздзелачныя дошкі і камень-гнёт.

Малако паставім кіпяціць, а самі зоймемся збіваннем смятаны з яйкамі, каб атрымалася аднародная сумесь. У закіпаючае малако дададзім соль і цукар, а калі яно закіпіць, тонкім струменьчыкам вылььем у яго смятанна-яечную сумесь. Нагрэем на слабым агні, памешваючы, дачакаемся згусання. Калі ў каструлі ўтворыцца шчыльны згустак, здымем з агню і адразу адкінем на друшляк, высланы двайной марляй.

Дачакаўшыся частковага сцэджвання сыроваткі, сырную масу завяжам у марлю, канцы якой расправім, змесцім паміж дзвюма чыстымі раздзелачнымі дошкамі і прыціснем каменем. Пасля выдалення ўсёй сыроваткі сыр можна лічыць гатовым. А на сыроватцы добра замешваць бліны.

Захоўваецца сыр, праўда, нядоўга: у халадзільніку — двое-трое сутак.

ЛЯЧЭННЕ БЕЗ ЛЕКАЎ

## Бародаўкі

БАРОДАЎКІ — ГЭТА ПАВЯЛІЧАНЫЯ САСОЧКІ СКУРЫ, ПАКРЫТЫЯ РАЗРОСШЫМІСЯ КЛЕТКАМІ ЯЕ ВЕРХНЯГА СЛОЯ.

ЁСЦЬ МНОГА ПРОСТЫХ СРОДКАЎ ДЛЯ ІХ ВЫНІШЧЭННЯ.

1. Намазаць фланелевы бінт зялёным вадкім мылам (спецыяльнае мыла, не туалетнае), завязаць бародаўку. Праз суткі пакласці новую мазь. Так некалькі разоў. Ад гэтага бародаўка становіцца такой мяккай, што яе лёгка можна выдаліць.

2. Натаўчы часнок, змяшаць яго са свіным топленым салам, намазаць на анучку, прывязваць да бародаўкі, змяняючы штодзённа.

3. Патрымаць у воцатнай эсенцыі ці воцаце дзве гадзіны сырую цыбуліну і прывязваць яе на ноч. Будзе моцна торгаць. Так зрабіць некалькі разоў, пакуль бародаўка не выйдзе з коранем.

4. Нацерці бародаўку чыстым мелам (без усякіх прымесей), зверху насыпаць яшчэ мелу і завязаць. Так зрабіць некалькі разоў, мачыць нельга.

5. Кожны дзень націраць бародаўку сокам кіслых свежых яблыкаў. Бародаўка паступова стане змяншацца, пацямнее і дзён праз дзесяць знікне.

